ГРОДНА
№5 (580),
6 сакавіка 2022

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Маўклівы Юзаф




*Святы Юзаф, выхавацель Езуса Хрыста і апякун Святой Сям'і, абарані нашы сем'і і вядзі нас туды, куды хоча Бог!*

на староны 2

## Малітва ў інтэнцыі міру ва Украіне




*Каб абудзіць сумленне адказных за братабойчую вайну.*

на староны 4

## Гнезна. Узор гатычнай архітэктуры на нашых землях




*Касцёл св. арханёла Міхала ў Гнезне – трэцяя па старажытнасці захаваная каталіцкая святыня ў Беларусі пасля касцёлаў у Ішкалдзі і Уселюбе.*

на староны 6

# ДА ІНДУЛЬГЕНЦЫЙ ТРЭБА ДАРАСЦІ. ПРА АДПУСТЫ Ў СУЧАСНЫМ КАСЦЁЛЕ




**Нягледзячы на тое, што за індульгенцыямі цягнецца досыць брыдкі гістарычны хвост, каталікі ніколі не адыходзілі ад іх, а наадварот развівалі. Папа Бенедыкт зусім нядаўна ўзгадваў, што адпусты могуць "дзейсна падтрымліваць вернікаў на шляху навяртання". З экспертам па кананічным праве размаўляем пра простыя і складаныя бакі гэтай практыкі.**

на староны 3

# ПРА РЭАЛІЗАЦЫЮ СЯБЕ Ў МАНАСТВЕ




*8 сакавіка – Міжнародны жаночы дзень*

**"Молімся за манахінь і кансэкраваных жанчын, дзякуючы за іх місію і адвагу, каб яны працягвалі знаходзіць новыя адказы на выклікі нашага часу", – так гучала малітоўная інтэнцыя папы Францішка на нядаўні люты. Перад 8 сакавіка хочам закрануць тэму развіцця жанчын у Касцёле праз прызму кансэкраваных жанчын.**

на староны 5

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!



У чарговы раз мы атрымалі ў рукі дар Вялікага посту. Гэтыя 40 дзён прызначаны для добрай падрыхтоўкі, каб праз парайнанне ўласнага жыцця з Божым словам мы заняліся напружанай працай над сабой.

Стаць на шлях змены ўласнага жыцця могуць дапамагчы пакаянныя практыкі, якія добра нам вядомы: малітва, пост і міласціна. Малітва – гэта магчымасць пастаянна быць у Божай прысутнасці. Міласціна – бескарыслівы дар, дадзены іншаму чалавеку. Пост жа з'яўляецца адмовай ад чагосьці дзеля Бога, каб больш Яму падабацца.

У гэты святы час Касцёл таксама дае вернікам магчымасць браць з невычэрпнага скарбу ласкаў. Гэта адпусты, якія мы можам ахвяраваць за сябе ці за душу, якая пакутуе ў чысцы і мае патрэбу ў нашай малітве. Велікапосныя набажэнствы, такія як Песні жальбы і Крыжовы шлях, даюць нам дадатковую магчымасць атрымаць незвычайныя ласкі.

Таму давайце старанна карыстацца гэтым скарбам ласкаў, якія Езус здабыў для нас праз свае пакуты!

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**6 сакавіка**
***I Нядзеля Вялікага посту.***
*У гэты дзень мы чуем у літургіі гісторыю аб спакушэнні Хрыста і Яго перамозе над д'яблам. Бог дапускае спакусы не для таго, каб нашкодзіць чалавеку ці, тым больш, знішчыць яго, але каб праз намаганні барацьбы з імі ўдасканаліць і ачысціць чалавечую веру і любоў.*

**8 сакавіка**
***Міжнародны жаночы дзень.***
*Нягледзячы на тое, што гэта свецкая ўрачыстасць, давайце маліцца за ўсіх жанчын, асабліва за найбольш стомленых маці шматдзетных сем'яў, жанчын, якія апекуюцца хворымі і нямоглымі, а таксама жанчын, якіх зневажаюць і праследуюць у многіх частках свету.*

**13 сакавіка**
***II Нядзеля Вялікага посту.***
*Божае слова на гэты дзень запрашае нас на гару Табор, дзе разам з Пятром, Янам і Якубам мы можам стаць сведкамі незвычайнай падзеі і ступіць на шлях асабістага навяртання. У гэты дзень прыпадае 9-ая гадавіна абрання Святога Айца Францішка на Пятровы пасад. 13 сакавіка 2013 года на той час 76-гадовы кардынал Хорхе Марыя Бергольё SJ з Аргенціны быў абраны Папам. Ён з'яўляецца 266-ым біскупам Рыма. Молімся за Святога Айца, каб Бог захаваў яго здаровым на доўгія гады.*

**19 сакавіка**
***Урачыстасць св. Юзафа, Абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.***
*Св. Юзаф быў сапраўдным галавой Святой Сям'і. Нягледзячы на тое, што ён паходзіў з царскага роду Давіда, быў звычайным рамеснікам, які ўтрымліваў сябе і сваіх блізкіх з цяжкай фізічнай працы з дрэвам, металам або каменем. Св. Юзаф, Абраннік Найсвяцейшай Панны Марыі, быў апекуном і выхавацелем Езуса Хрыста. У цяперашні час ён з'яўляецца апекуном-заступнікам Паўсюднага Касцёла.*

# МАЎКЛІВЫ ЮЗАФ

працяг са с. 1

**Некаторых здзіўляе постаць св. Юзафа, які на старонках кожнага з чатырох Евангелляў не прамаўляе ніводнага слова. Будучы Абраннікам Найсвяцейшай Панны Марыі, а таксама апекуном і выхавацелем Езуса, ён застаецца ў цені. І ўсё ж з'яўляецца захапляльнай постаццю.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Святы Юзаф па-ранейшаму застаецца актуальным узорам для сучасных мужчын: мужоў, бацькаў, дзядуль, удаўцоў, адзінокіх, студэнтаў, юнакоў, святароў. І хоць сучасны свет спрыяе паспяховым мужчынам, моцным палітыкам, эфектыўным спартсменам, таленавітым акцёрам, робячы іх настаўнікамі жыцця і ўзорамі мужнасці, толькі маўклівы Юзаф можа сапраўды паказаць нам правільны шлях да вечнага шчасця і расказаць, што значыць быць сапраўдным мужчынам.



*Юзаф і Дзіцятка Езус, абраз Гвіда Рэні*

### УСЛУХАНЫ Ў ГОЛАС БОГА

Дзіўны парадокс, бо маўклівы святы мае так шмат што нам сказаць! Ён з'яўляецца прыкладам адносін веруючага чалавека да Бога, жанчыны і дзіцяці. Яго маўчанне, адыход у цень не былі вынікам адсутнасці рашучасці або страху перад жыццём і перад іншымі, але выбарам чалавека, які разумеў, чаго ад яго хоча Бог, і быў упэўнены, што, трываючы ў такой паставе, ён можа найлепш выканаць сваю місію.

Юзаф зразумеў, што ўласныя планы не самыя галоўныя. Двойчы яны былі цалкам знішчаны ўмяшаннем Бога. Першы раз – пасля Звеставання, калі ён даведаўся ад Марыі, што Яна цяжарная ад Святога Духа і павінна нарадзіць Збаўцу свету. Другі раз – калі яму давялося замест Назарэта накіравацца ў Егіпет. Перад абліччам дзіўнага лёсу Марыі і Яе Сына Юзаф не кіруецца ўласнай непасрэднасцю або мудрасцю, але застаецца ўслуханы ў голас Бога і паслухмяны Божай волі да канца.

**Урачыстасць св. Юзафа, Абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі, перажываем 19 сакавіка.**

### ЧАЛАВЕК ДАВЕРУ

Св. Юзаф сёння патрэбны нам, асабліва тады, калі разбураюцца нашы планы, калі Божая воля паказвае накірунак, адрозны ад нашага, спланаванага і прадуманага да дробязей. Ён вучыць нас гераічнай веры і даверу да Бога, часам нават насуперак здароваму сэнсу, супраць плыні.

Падзея Звеставання на самым пачатку паставіла шлюб Марыі і Юзафа ў сітуацыю, якая напалохала б, напэўна, кожнага. Паставіла іх перад найвышэйшым выпрабаваннем веры ў Бога і ўзаемнага даверу. Бясспрэчна, Юзаф меў тысячы пытанняў, яму ў галаву павінны былі прыходзіць розныя думкі. Ён не разумеў гэтай сітуацыі, як і Марыя. Напэўна, яны шмат часу разважалі адзін з адным, імкнучыся зразумець, што адбылося. У выніку Юзаф паверыў, што Марыя чакае дзіця, Айцом якога з'яўляецца сам Бог.

### ВЕРНЫ ДА КАНЦА

Як жа нам патрэбны св. Юзаф, асабліва калі ў нашых сем'ях узнікаюць праблемы і цяжкасці, калі здаецца, што іншага варыянту, акрамя разводу, няма. Ён вучыць нас узаемнай павазе, даверу, вернасці, супольнай малітве і пастаяннаму пошуку Божай волі для сужэнскіх пар і сем'яў.

Нягледзячы на тое, што ён знаходзіўся ў цені, тым не менш, адыграў важную ролю ў гісторыі збаўлення. Перш за ўсё таму, што ён прыналежны да калена Юды аб'яднаў Езуса з каленам Давіда, дзякуючы чаму Сын Панны Марыі, выконваючы месіянскія абяцанні, можа сказаць, што ён сапраўды "сын Давіда". Праз ролю Юзафа споўніліся месіянскія прароцтвы аб Езусе.

### ПРЫКЛАД ДЛЯ БАЦЬКАЎ

Але самае галоўнае было тое, што ён прыняў Езуса – Божага Сына – і акружыў Яго любоўю ды клопатам, гарантуючы Яму пачуццё бяспекі. Такім чынам св. Юзаф дае ўсім мужам і бацькам зразумець, што іх дзеці і блізкія больш за ўсё маюць патрэбу ў іх любові і прысутнасці.

Нам патрэбны св. Юзаф, каб дапамагчы прыняць кожнае зачатае жыццё і акружыць яго любоўю ды клопатам. Ён вучыць нас паважаць дзіця, асабліва цяпер, калі яно ўсё часцей становіцца аб'ектам жадання і нежадання бацькоў, засяроджаных толькі на сабе.

Давайце па прыкладзе святога наставім вуха і прыслухаемся да Слова, якое прамаўляе да нас Бог. У цяжкія часы будзем прасіць дапамогі і заступніцтва св. Юзафа, каб ён стаў абаронцам і апекуном нашых сем'яў, а таксама вёў нас, куды хоча Бог.

# ДА ІНДУЛЬГЕНЦЫЙ ТРЭБА ДАРАСЦІ. ПРА АДПУСТЫ Ў СУЧАСНЫМ КАСЦЁЛЕ

*працяг са с. 1*

*Размаўляў Арцём Ткачук*



**Кс. Павел Урбан** – *пробашч у Парэччы. Віцэ-афіцыял Касцёльнага суда Гродзенскай дыяцэзіі і выкладчык Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне. Ліцэнцыят кананічнага права.*

***– З дакументаў Касцёла вынікае, што індульгенцыі можна атрымліваць кожны дзень. За чытанне Святога Пісання, Ружанец, адарацыю і яшчэ дзесяткі практык прадугледжаны адпусты.***

– Усё так. Можна атрымліваць поўны адпуст кожны дзень. Гэта рэгулюецца дэкрэтам Пэнітэнцыярыя з 1999 года. Увогуле гэты дакумент быў выдадзены ў 1968 годзе, аднак з таго часу ён меў чатыры рэдакцыі. Каталог адпустаў не зміняецца, толькі крыху карэкціруюцца ўмовы для іх.

***– Паводле гэтага дакумента, калі перыядычна спавядацца і атрымліваць адпусты, рай чалавеку гарантаваны?***

– Неба чалавеку гарантавана ахвярай Хрыста, Яго Крывёй і пакутай на крыжы. Калі чалавек па жыцці ідзе з Хрыстом, яднаецца з Ім усімі магчымымі спосабамі, то ён атрымае збаўленне. Галоўнае – хацець яго скарыстаць.

Адпуст, у сваю чаргу, з'яўляецца адной з магчымасцей, праз якую мы можам выразіць нашу прыхільнасць да Хрыста.

***у жыцці так не бывае…***

– З аднаго боку, усё проста. Езус жа казаў: "Любі бліжняга і любі Бога". Ці, як казаў св. Аўгусцін, "любі і рабі, што хочаш". Разам з тым мы ведаем, што любіць вельмі цяжка. І нават здабываць гэтыя адпусты часта няпроста, бо адной з умоў з'яўляецца стан асвячальнай ласкі. Цяжка захаваць такі стан, напрыклад, працуючы ў калектыве.

***– А адпуст за выслуханне блаславення "Urbi et Orbi"?***

– Так. І ў кожнага біскупа яшчэ ёсць права тры разы на год удзяляць папскае блаславенне, з якім таксама звязана магчымасць атрымаць поўны адпуст.

Трэба разумець, што практыка адпустаў вырасла з паглыблення свядомасці Касцёла, што Бог не толькі міласэрны, але і справядлівы. Падчас споведзі мы атрымліваем прабачэнне віны за грахі, аднак справядлівасць дамагаецца пакарання. Так, як і ў грамадскім жыцці – калі чалавек хоча вызваліцца са стану вінаватага, ён павінен не толькі быць прабачаным, але і панесці пакаранне за крыўду.

Каталіка павінна быць скіравана на здабыццё збаўлення. Як казаў Хрыстос, "гвалтам здабывайце Неба". Не чысцец, а Неба. Таму трэба рабіць для гэтага ўсё, што магчыма, карыстацца ўсімі сродкамі.

***– Чаму ў нашай каталіцкай супольнасці няма ўстойлівага нагадвання пра магчымасці адпустаў? Адзіны адпуст, пра які гаворыцца ў касцёлах, – за Крыжовы шлях у Вялікім посце.***

– Не магу пагадзіцца з гэтым. Калі я вучыўся ва ўніверсітэце ў Любліне, на канікулы прыязджаў у Беларусь. Парафіі я не меў, і мяне запрашалі на рэкалекцыі. Ездзіў то да аднаго сябра святара, то да другога… Таму шмат дзе

– Канешне, хацелася б, каб людзі больш карысталіся адпустамі. Каб паглыблялася ўсведамленне вартасці адпустаў. З другога боку, па маіх назіраннях, актыўнасць, звязаная з асноўнымі адпустамі, большая, чым у звычайны перыяд. У Вялікі пост, падчас парафіяльных адпустаў, у актаву Усіх Святых людзі актыўней спавядаюцца, ідуць да Камуніі. Ніхто, канешне, не рабіў даследаванняў, чаму яны гэта робяць, але спадзяюся, што гэта бярэцца з жадання атрымаць адпуст.

***– Значыць, Вы не бачыце нейкага заняпаду адпустаў сярод католікаў?***

– Як ужо згадваў, я бачу павелічэнне актыўнасці, звязанай са споведдзю і св. Камуніяй у дні, калі можна атрымаць адпуст. А ў сэрца чалавека не заглянеш.

***– Але возьмем, напрыклад, успамін св. Агаты ці асвячэнне велікодных страў. Напэўна, столькі людзей не прыходзіць за адпустамі.***

– Згодзен, столькі не прыходзіць.

***– Няўжо з нашай агульнай верай усё так кепска?***

– Не думаю, што ўсё кепска. Я лічу, людзі цяпер больш свядома вераць і больш свядома ставяцца да веры. Вядома, раней болей прыходзіла, сёння менш. Аднак рэлігійная свядомасць людзей, якія прыходзяць сёння, павялічваецца.

***– Нас робіцца менш, але…***

– Але гэта больш якасныя хрысціяне, так.

***– Вам не падаецца, што маладое пакаленне ўспрымае практыку адпустаў як састарэлую, непрацуючую?***

– Мой досвед такі, што свядомасць адпустаў павялічваецца разам з узростам чалавека. Мяркую, маладыя людзі мала думаюць наконт таго, навошта патрэбны індульгенцыі і ці варта імі займацца.

***– То-бок, да гэтага трэба дарасці?***

– Так, да адпустаў трэба дарасці.

***– І гэта ўжо высокі ўзровень духоўнасці?***

– Гэта пэўны ўзровень адказнасці за сваё жыццё і свядомасці таго, што прыйдзе час стаць перад абліччам Бога. Вядома, Ён прабачае, але прыходзіць таксама ўсведамленне важнасці выпраўлення шкоды, якую я прынёс у духоўным свеце.



*Падчас парафіяльнага адпусту ў Суботніках*

***– Вось як думае просты католік: "Я стараюся жыць добра, але хто яго ведае, траплю ў тое Неба ці не". У гэтым прысутнічае доля сумнення. Калі ж паглядзець на адпусты, атрымліваецца так: спавядайся, штодзённа 30 хвілін чытай Святое Пісанне, маліся за Папу, не мей прывязанасцей да граху – і будзеш збаўлены.***

– Хто будзе чытаць Пісанне кожны дзень ці маліцца Ружанцам у сям'і, не маючы веры? Толькі гэта можа рухаць чалавекам. Таму карыстанне адпустамі – гэта выраз веры людзей: калі ты верыш, стараешся максімальна выкарыстаць магчымасці супольнасці свайго Касцёла.

***– Усё-такі гэта выглядае настолькі простым, што не верыцца. Занадта "ружова",***

Таму адпуст прызначаны для таго, каб мы як супольнасць Касцёла маглі дапамагчы чалавеку вызваліцца ад кары. Чалавеку, які пакаяўся падчас споведзі і хоча выправіць учыненыя духоўныя шкоды.

***– Ёсць такі каталіцкі падыход – "заслужыць хоць чысцец". Маўляў, мы такія грэшнікі, што адзінае, што можам заслужыць, – гэта чысцец. Практыка адпустаў гэтаму пярэчыць.***

– Адзін пратэстанцкі прапаведнік гаварыў: "Чым мне не падабаюцца католікі, дык гэта тым, што многія з іх кажуць: «Дай Бог трапіць хоць у чысцец». Ці, можа, у якія сені ў Небе". І гэты прапаведнік адзначаў, што ён хоча менавіта ў цэнтр раю, у цэнтр Божага сэрца. У пэўным сэнсе я з ім згодны: сапраўдная пазіцыя

пабываў і магу сказаць, што святары самі казалі пра адпусты, звязаныя з духоўнымі практыкамі.

У нашай Гродзенскай дыяцэзіі ёсць рубрыцэрый – такі літургічны каляндар. Там галоўныя адпусты ўпісаны ў парафіяльныя аб'явы. Пробашчы павінны аб'яўляць іх, і гэты мінімум выконваецца. Аб'яўляюцца і парафіяльныя адпусты, і велікапосныя, і звязаныя з памяццю пра памерлых, і Парц'юнкулі. Можа, не ўсе, але галоўныя і найбольш традыцыйныя для нашай мясцовасці – дакладна.

***– Ведаеце, ва ўсёй гэтай размове ў мяне ёсць моцнае пачуццё, што Касцёл дае штосьці вельмі вялікае, але большасць ставіцца да гэтага абыякава. Як Вам бачыцца з практыкі?***

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Абвешчана тэма Дня дзядуль, бабуль і пажылых людзей

"Нават у старасці яны будуць пладавітыя" (Пс 92, 15), – так гучыць тэма II Сусветнага дня дзядуль, бабуль і пажылых людзей. Ён будзе адзначацца ў Касцёле 24 ліпеня 2022 года.

Тэма, выбраная папам Францішкам, мае на мэце падкрэсліць, што пажылыя людзі з'яўляюцца каштоўнасцю і дарам, як для грамадства, так і для касцёльнай супольнасці.

Адзначаецца, што тэма Сусветнага дня з'яўляецца таксама заклікам брацца пад увагу і цаніць пажылых людзей, якія вельмі часта апынаюцца на абочыне жыцця сем'яў, грамадзянскіх і касцёльных супольнасцей.

### Францішак ухваліў дэкрэты Кангрэгацыі па справах кананізацыі

Дэкрэт аб цудзе датычыцца надзвычайнага выздараўлення, якое прыпісваецца заступніцтву Слугі Божай Марыі Кастанцы Панас, манахіні з ордэна кларысак, якая нарадзілася 5 студзеня 1896 года ў італьянскім Алана-дзі-Пʼявэ, а памерла 28 мая 1963 года ў кляштары ў Фабрыяна. Яна ахвяравала свае пакуты за папу Яна XXIII і II Ватыканскі сабор.

Адзін з дэкрэтаў аб гераічнасці цнот тычыцца Слугі Божага Эдуарда Піронія, кардынала, які нарадзіўся 3 снежня 1920 года ў аргентынскім Нуэва-дэ-Хулія, а памёр 5 лютага 1998 года ў Рыме.

Іншымі дэкрэтамі пацвярджаецца гераічнасць цнот трох кансэкраваных асоб: італьянка Імакалата Джузэппэ дзі Джэзу з ордэна кармэлітаў босых; бразільянкі Беніны Віцімы дзі Джэзу, манахіні з Кангрэгацыі Сясцёр Дапаможніц Маці Божай Міласэрнасці; і іспанкі Джааны Мендэс Рамэра з Кангрэгацыі Сясцёр Уршулянак Сэрца Езуса.

### СДМ 2023: "год рэалізацыі" арганізацыйных планаў

Арганізатары Сусветных дзён моладзі, якія пройдуць у 2023 годзе ў Лісабоне, абвясцілі аб пачатку фінальнага этапу падрыхтоўкі да сустрэчы.

Месцам сустрэчы Папы з моладдзю стане сучасны Парк Тэжу, размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы Лісабона і створаны на мяжы мінулага стагоддзя ў месцы, дзе прырода некалі значна пацярпела ад прамысловасці. Яго плошча – прыблізна 90 гектараў. Сусветныя дні моладзі пройдуць у Лісабоне 1–6 жніўня 2023 года. Іх тэма – словы, узятыя з Евангелля паводле св. Лукі: "Сабраўшыся, Марыя ў тыя дні паспяшыла ў горную краіну" (1, 39). Форум павінен быў адбыцца ў 2022 годзе, але планам перашкодзіла пандэмія каранавіруса.

### Малітоўныя інтэнцыі на сакавік

**паўсюдная**

Молімся, каб мы, хрысціяне, перад абліччам новых біяэтычных выклікаў заўсёды падтрымлівалі абарону жыцця малітвай і грамадскай дзейнасцю.

**дыяцэзіяльная**

Молімся аб аднаўленні рэлігійнага жыцця ў нашых сем'ях і парафіях.

# МАЛІТВА Ў ІНТЭНЦЫІ МІРУ ВА УКРАІНЕ



Супольная малітва за мір ва Украіне адбываецца ў розных кутках Беларусі

працяг са с. 1

**27 лютага ў гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя адбылася св. Імша за мір ва Украіне і за брацкі ўкраінскі народ. Эўхарыстыю ўзначаліў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у канцэлебрацыі з біскупам Гродзенскім Аляксандрам Кашкевічам і святарамі.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

У галоўнай святыні дыяцэзіі сабраліся шматлікія вернікі, каб у гэтыя цяжкія часы скіраваць свае сэрцы да Бога, поўнага любові і міласэрнасці, у намеры вяртання міру і адзінства паміж народамі.

У гаміліі арцыбіскуп Кандрусевіч падкрэсліў, што Касцёл заклікае да тэрміновага спынення ваенных дзеянняў і распачацця ўзаемнага дыялогу з мэтай пошуку шляхоў да яго мірнага вырашэння. „Няхай наша салідарная малітва з церпячымі ўкраінскімі братамі і сёстрамі з заклікам да ўзаемнага прабачэння і паяднання прычыніцца да ўстаялявання сталага міру ва Украіне і свеце", – дадаў іерарх.

Пасля св. Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту. Падчас адарацыі ўсе пысутныя прасілі Бога праз заступніцтва Найсвяцейшай Панны Марыі, Каралевы Супакою, каб абудзіў сумленні адказных за братабойчую вайну, каб ніколі на нашай зямлі не было збройных канфліктаў, але квітнеў мір і супольная згода.

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ФРАНЦЫЯ.** Каталіцкая манахіня ў Францыі дажыла да 118 гадоў. Мінуўшы гэтую вяху, яна стала другім па ўзросце чалавекам, які цяпер жыве ў свеце, і найстарэйшай жыхаркай Еўропы. Сястра Андрэ (свецкае імя Люсіль) Рандон нарадзілася 11 лютага 1904 года ў Алесе (Францыя) і ў 19 гадоў перайшла з пратэстантызму ў каталіцтва. Яна даглядала малалетніх і пажылых пацыентаў у французскай бальніцы, пасля чаго, дасягнуўшы 40-гадовага ўзросту, склала манаскі зарок, уступіўшы ў Ордэн Дачок Міласэрнасці, заснаваны святым Вінцэнтам дэ Полем у 1944 годзе.

**ПОЛЬШЧА.** Ліст будаўнікоў архікатэдры ў Беластоку знайшлі падчас дэмантажу крыжа на адной з вежаў храма. Ён быў змешчаны ў шкляную бутэльку. На перасланым скане знойдзенага ліста можна прачытаць: "Ніжэйпадпісаныя ўдзельнічалі ў будоўлі гэтага касцёла па праекце архітэктара Дзяконскага з Варшавы". Затым былі пералічаны будаўнікі: муляр, тэхнік-практыкант, муляр-чаляднік і бляхар. Побач указаны прозвішчы будаўнікоў, якія трохі выцвілі. Была таксама прыпіска: "Усе з Варшавы". У канцы змяшчаецца дакладная дата напісання ліста: 17 кастрычніка 1903 года.

**ІНДЫЯ.** У краіне працягваюцца ганенні на хрысціян. У Гокунтэ, штат Карнатака, былі знішчаны статуя Езуса і Крыжовы шлях. Мясцовыя ўлады ўехалі на тэрыторыю парафіі на бульдозеры пад маркай памылак у дакументах на ўласнасць. Знос быў здзейснены, хаця суд забараніў рабіць якія-небудзь дзеянні, пакуль пытанне не будзе вырашана вышэйстаячым судом. Для ўсіх гэта стала нечаканасцю, бо раней парафія не атрымлівала ніякіх лістоў аб запланаваных мерапрыемствах. Сотні людзей у роспачы назіралі за знішчэннем хрысціянскіх сімвалаў пад наглядам 200 паліцэйскіх.

**ПАКІСТАН.** Больш за дзесятак магіл на могілках Шахкот былі апаганены мусульманінам, які хацеў пабудаваць пад'язную дарогу да сваёй уласнасці недалёка ад Лахора, сталіцы правінцыі Пенджаб. Група хрысціян затрымала бульдозер, не дапусціўшы далейшага апаганьвання. Хрысціяне, якія накіроўваліся на могілкі, дзе павінна было адбыцца пахаванне, натыкнуліся на рабочых, што перакапалі з дзясятак магіл і зраўноўвалі зямлёю. Яны адразу арганізавалі пратэст. Спынілі дарожны рух і выклікалі паліцыю, патрабуючы ўмяшацца. Службы загадалі прыпыніць працы і дапамаглі забяспечыць тэрыторыю для перапахавання.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

## ЛІСТЫ ЧЫТАЧОЎ

# БЕЗ РАЗВІЦЦЯ АДНОСІН НЯМА ПАТРЭБЫ Ў МАЛІТВЕ

*Вольга Івашына*



Найперш варта сказаць, што для мяне свядомае рэлігійна-малітоўнае жыццё пачалося не з дзяцінства. Навяртанне да Бога і далучэнне да Яго Царквы адбылося нашмат пазней праз асэнсаваны выбар. І, безумоўна, то быў вялікі дар Божы для мяне асабіста.

Можна, канешне, узгадаць першыя спробы бабулі далучыць мяне да малітвы, але ўсе гэтыя намаганні на мяне ніякім чынам не паўплывалі, бо не паходзілі з маёй уласнай волі. Чытанне ж складзеных у малітвы слоў з розных малітоўнікаў без далучэння да іх хаця б розуму не з'яўляецца малітвай ані ў сціслым значэнні, ані паводле сутнасці. Аднак, прынамсі, то былі мае першыя сутыкненні з духоўна-малітоўнай рэчаіснасцю.

Пачатак майго малітоўнага жыцця быў непасрэдна звязаны з гісторыяй навяртання, таму дзеля парадку мушу распавесці і пра яго.

Не атрымаўшы ад бацькоў першаснага досведу веры, выхаваная ў атэістычным постсавецкім асяроддзі, інтэлектуалізаваная і засяроджаная на развіцці сваіх разумовых здольнасцей, я яшчэ да пачатку навучання ва ўніверсітэце была цвёрда перакананая ў выключнай матэрыяльнасці гэтага свету. Любыя праявы рэлігійнасці людзей побач са мной выклікалі калі не раздражненне ці гнеў, то, прынамсі, іранічную ўсмешку. Умацоўвалі гэтае светаўспрыманне і выкладчыкі навучальнай установы, і большасць студэнтаў. Аднак звычайнае жыццё сярэднестатыстычнага спажыўца досыць прымітыўнае і дакладна не можа задаволіць прагненне духоўнага развіцця асобы.

Госпад як мой Творца, які дакладна ведае ўсе нават неўсвядомленыя патрэбы, падрыхтаваў для мяне ратаванне найлепшым з магчымых спосабаў. Прыкладна на трэцім курсе навучання Ён сутыкнуў мяне са студэнтам 5 курса гістарычнага факультэта, шчырым вернікам рыма-католікам, што ў Гомелі, дзе я вучылася, ужо само па сабе было досыць рэдкай з'явай.

Памятаю, што моцна абурылася з-за таго, як такое можа быць: разумны малады навуковец, без пяці хвілін аспірант і... хрысціянін? Безумоўна, мой унутраны атэіст адразу ж загарэўся ідэяй "расплюшчыць вочы" бедаку, разумнаму чалавеку, які (на маю тагачасную думку) меў адзіны "недахоп" – веру ў Бога, якім я Яго сабе на той момант уяўляла. Пачаліся нашы са студэнтам доўгія і гарачыя спрэчкі, якія, аднак, да змены нашых перакананняў не прыводзілі. Падчас адной з такіх палемік на кінутую мной рэпліку кшталту "не паверу, пакуль не ўбачу! Хай твой Бог мне дакажа сваё існаванне!" мой заціхты суразмоўца раптам спакойна выдаў: "А хто ты такая, каб табе Бог нешта даказваў?". Скажу шчыра, гэтая заява была для мяне падобна на ледзяны душ, а рэакцыя ўласнага самалюбства была надзвычай бурнай. І гэта стала паваротным момантам майго духоўнага жыцця. Надышло разуменне веры хрысціян у існаванне не проста нейкага выдуманага людзьмі персанажа Бога, але менавіта Асобы Бога, роўнага мне ў свабодзе выбару сваіх слоў і дзеянняў. Забягаючы наперад, магу сказаць, што такое разуменне значна дапамагло ва ўсталяванні асабістых шчырых адносін з Богам і малітоўнай практыкі ўжо пасля навяртання, бо вобраз Бога ад пачатку склаўся слушным чынам – як вобраз свабоднай, разумнай, незалежнай Істоты.

Заўважыўшы маю цікаўнасць не толькі да духоўных рэчаў, але і да беларушчыны, мой сябар прапанаваў пазнаёміць мяне з суполкай грэка-католікаў. Яна збіралася раз на месяц дзеля супольнай беларускамоўнай Літургіі і катэхетычных сустрэч пасля службы. Ён адзначыў, што падчас гэтых сустрэч святар з задавальненнем адкажа на ўсе мае пытанні.

Першы ўдзел у Літургіі памяць захавала слаба, бо я фактычна ў ёй і не ўдзельнічала, а толькі прабягала вачыма па тэксце ў малітоўніку. Катэхетычныя заняткі выклікалі куды больш цікаўнасці. Амаль поўная адсутнасць якіх-небудзь ведаў пра Бога, Біблію, веру, Царкву запаўняліся досыць хутка. Праз паступовае навучанне змяняўся і мой удзел у Літургіі. Незразумелыя напачатку словы пачалі набываць канкрэтны сэнс і сімвалізм. Аднак заставаўся ўнутраны пратэст атэіста супраць самой неабходнасці ўсяго гэтага дзейства. Паколькі немагчыма ўвесь час заставацца старонім назіральнікам, калі зроблены свядомы выбар прысутнічаць на Літургіі, паступова я пачала ўважліва адклікацца на тыя словы малітваў, якія адпавядалі маму стану і разуменню справядлівасці, дабра і любові. У асноўным гэта датычыла малітваў-просьбаў.

Аднойчы я прыйшла на Літургію трошкі раней і ўбачыла, як вернікі просяць святара далучыць да звычайных малітваў іх асабістыя хадайніцтвы за здароўе родных, за душы памерлых, за вырашэнне нейкай складанай жыццёвай сітуацыі. Для мяне гэта было невялічкім адкрыццём: высветлілася, што Бога можна прасіць пра штосьці неабходнае менавіта табе. А падчас аднаго з катэхетычных заняткаў, калі разглядалася тэма малітвы і яе разнавіднасці, упершыню прагучала для мяне, што асабістая малітва – найбольш важная, бо фарміруе адносіны з Богам лепей, чым супольная, дзе можна "схавацца" за безасабовасцю ды стандартнымі малітоўнымі формуламі. Пасля гэтага я некалькі разоў спрабавала арганізаваць штосьці накшталт асабістай малітвы, яле яшчэ не ўсведамляла да канца Таго, з кім размаўляю.

Далейшае вывучэнне асобы Бога змякчала маю пазіцыю адносна Яго. З пункта "не паверу, пакуль не ўбачу" я паступова і нават незаўважна для сябе самой перамясцілася ў воблась "хачу верыць". І вось тут, напэўна, Госпад вырашыў, што можна пачынаць будаваць асабістыя адносіны. Тыя доказы, якіх я калісьці патрабавала, былі мне дадзены. Не на ўзроўні "ўбачыць", але на ўзроўні "адчуць" Яго прысутнасць, усеабдымную спагадную любоў да мяне, прычым не з нейкіх маіх заслуг, а проста з факту майго існавання. Мяне любяць і жадаюць быць са мной у кожную хвіліну – гэтае разуменне трывала замацавалася ўва мне і падштурхнула волю да пачатку сапраўднага дыялогу з Крыніцай любові. Размова з Богам падчас маіх першых малітоўных практык нагадвала сяброўскую гутарку пра ўсё на свеце: не было ніводнай тэмы, якую б мне ні захацелася абмеркаваць з Ім. Здавалася, што я ўпарта спрабавала заспакоіць ненасычаную дагэтуль прагу стасункаў з Богам. Зранку, днём, увечары, падчас вучобы і адпачынку заўсёды знаходзілася хвілінка, каб звярнуцца да Госпада ці то з падзякай, ці то з просьбай. Усё навокал проста крычала пра тое, што Ён побач. Было дзіўна, як толькі я таго не заўважала раней.

Такім чынам, можна з упэўненасцю сказаць, што вызначэнне малітвы як размовы з Богам найлепш адпавядае сутнасці паняцця. І самае важнае, што гэты дыялог чалавек пачынае з уласнай волі, аднак толькі пасля закліку з боку Бога. Ніяк інакш пагутарыць няроўным паводле стану асобам не атрымаецца.

# ПРА РЭАЛІЗАЦЫЮ СЯБЕ Ў МАНАСТВЕ

працяг са с. 1

**Мы звярнуліся да дзвюх манахінь з Беларусі з пытаннямі, аб суаднясенні прафесійнай рэалізацыі сябе і манаства: што на яе, рэалізацыю, больш уплывае – харызма ордэна ці таленты самой жанчыны? Пацікавіліся ў сясцёр, ці варта прызываць да стварэння для манахінь месцаў працы ў структурах Касцёла па-за катэхезай і працай у закрыстыі? А таксама ці варта сёстрам прасоўвацца ў працы ў свецкіх структурах?**

*Размаўляла Кацярына Паўлоўская*



*Сястра Юлія Новік належыць да Кангрэгацыі Сясцёр Міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля. Працуе медсястрой у 10-ай Гарадской клінічнай бальніцы ў Мінску. Супольнасць сястры знаходзіцца на тэрыторыі мінскай парафіі Божага Цела.*

***– Сястра Юлія, што адносна рэалізацыі сябе і пакліканне?***

– Увогуле "рэалізацыя" – прыгожае слова. Як мне здаецца, яно больш падыходзіць да прафесіі, але ў грамадстве функцыянуе таксама паняцце "рэалізацыя сябе як чалавека". Быць паклікаcreatedным – ці то да сямейнага жыцця, ці то, як у нас, да манаства, – ісці па той дарозе, якую прадвызначае Бог – мне больш падыходзіць.

Што датычыць самарэалізацыі... Калі я прыходжу як манахіня ў нейкі ордэн ці кангрэгацыю, супольнасць, то, як часта нам падкрэслівалі, не рэалізоўваю сябе. Гэта праўда, што не кожная сястра выконвае нейкае служэнне, звязанае з тымі дарамі ці талентамі, якія мае. Нейкі час таму ў Касцёле чыталі Пасланне св. Якуба, у якім гучыць думка, што мы не ведаем усіх сваіх дароў, што яны схаваныя. Напрыклад, сястры здаецца, што яна можа толькі спяваць, таму прыходзіць у кангрэгацыю з гэтым сваім уменнем. Добра, што ўмее спяваць і можа гэта рабіць, тым самым рэалізуючы свой талент, але думаю, што ў ордэне сёстры дапамагаюць адкрыць тыя дары, якія ў нас дзесьці схаваныя альбо ўвогуле лічым, што іх няма. Гасподзь кожнага адорвае шматлікімі дабрадзействамі і здзяйсняе цуды ў жыцці, таму часам мы пачынаем рабіць тое, што, як раней здавалася, не ўмеем.

На практыцы гэта выглядае так: настаяцелі прыглядаюцца да таго, што гэты канкрэтны чалавек умее рабіць, да чаго мае схільнасць, пытаюць і дапамагаюць ісці, развіваць тыя таленты, тыя ўменні і веды, якія ёсць менавіта ў гэтага чалавека.

Выходзіць, ёсць два бакі выканання Божай волі. Часам сутыкаешся з такім парадоксам, што ты не робіш тое, што хочаш і ўмееш рабіць ідэальна, а робіць хтосьці, хто не ўмее. А часам бывае і так, што можаш выконваць абавязкі, тое служэнне, якое любіш альбо добра ўмееш рабіць. Нам жа таксама патрэбны людзі, якія добрыя не толькі ў такіх традыцыйных для нас служэннях, як катэхізацыя дзяцей, наведванне хворых і самотных людзей ці спеў у касцёле, але і эканомкі, сакратаркі – то-бок сёстры, якія маюць спецыяльную адукацыю. Яны атрымалі яе альбо да ордэна, альбо пасля ўступлення ў яго, каб рэалізаваць тыя здольнасці, якія ўжо маюць, і – я б падкрэсліла гэта – каб выконваць Божую волю.

***– Як Вы выбіралі ордэн?***

– Сёстры Міласэрнасці св. Вінцэнта дэ Поля, да якіх належу, служылі ў маёй парафіі. Наш ордэн канкрэтна звязаны з паслугай людзям бедным, ляжачым – тым, каму трэба аддаць больш фізічных і псіхічных сіл. Іх трэба мець і штосьці ўмець таксама, штосьці ведаць аб доглядзе за хворымі.

Я доўга хадзіла з роздумам у сэрцы: "Можа, пайду...". Памятаю, як прыйшла да сясцёр і сказала: "А можаце прыняць мяне да сябе ў ордэн? Я б хацела служыць Езусу Хрысту ў бедных, як вы". Гледзячы з перспектывы часу, усведамляю, што я не разумела да канца, што гавару. Я бачыла, што сёстры робяць усё: і з дзецьмі былі, і з хворымі, і парафію вялі, арганізоўвалі тое, што звычайна сёстры робяць у парафіі. Я не думала, кім буду, шчыра кажучы. Настолькі верыла, што гэта Бог мне дае, што, можна сказаць, усляпую пайшла. Сказалі б быць медсястрой, паехаць у Афрыку – я была гатовая ў той час. Магчыма, калі б побач былі кларыскі ці назарэтанкі, то я б пайшла да іх. Так было канкрэтна ў мяне. Ведаю, што ёсць розныя меркаванні сясцёр і пакліканні.

Часам бывае і так, што сэрца ляжыць да хабіта. Дзяўчаты гавораць: "У вас прыгожая вопратка, мне падабаецца ваша сукенка". Гэта таксама інтэнцыя, якую Гасподзь потым ачышчае, дае іншыя сілы і ласкі.

***– Ці не здаецца Вам, што сёстрам складаней праявіць сябе ў касцёльных структурах? Ці варта манахіням таксама прасоўвацца ў працы ў свецкіх установах?***

– Сёстры па ўсім свеце займаюць розныя пасады. Тут трэба быць вельмі моцнай духам і супольнасцю, каб быць сярод людзей свецкіх, бо гэта складана. Я сама працую ў свецкай структуры і скажу, што трэба быць моцнай у супольнасці з сёстрамі, у Богу, у малітве, каб не згубіцца.

Нас вельмі мала ў пакліканні, калі так паглядзець. Тое, што мы выконваем у Касцёле і што можам гэта выконваць, таксама з'яўляецца добрым знакам і сведчаннем. Я медсястра – гэта ў маёй харызме. Калі разглядаць усе прафесіі, то мне было б дзіўна, калі б сястра сядзела ў міністэрстве. Хаця ў кожнага свая харызма, і гэта важна памятаць. У прынцыпе, добра, калі, напрыклад, сястра дапамагае ў касцёльным судзе пры курыі.

Не адчуваю, што мы ўшчымлены, і не чула, каб хтосьці на гэта скардзіўся. Магчыма, я гавару канкрэтна з перспектывы сваёй супольнасці. Ёсць розныя сёстры, у тым ліку кансэкраваныя, якія апранаюцца "па-светску". Магчыма, яны адчуваюць, што іх не заўважаюць. Я не супраць, каб сёстры дзесьці з'яўляліся і праяўлялі свае таленты, нават у міністэрстве, скажам так. Адначасова варта не губляць ролю жанчыны. У параўнанні з мужчынам, яна "перамагае" сваёй лагоднасцю.



*Сястра Таццяна Гмыза з Кангрэгацыі Сясцёр Служак Езуса ў Эўхарыстыі працуе ў парафіі Святога Духа ў Грыгішках (Літва) і ў дзвюх школах у Вільнюсе. Перад гэтым служыла ў полацкай парафіі св. Андрэя Баболі. Вядзе блог у Інстаграме. Як дзеліцца сама сястра, на тэмы для блога яе натхняе Бог, а таксама чытачы.*

***– Прафесія і пакліканне...***

– Я б сказала, што прафесія – гэта вельмі часта пакліканне да той справы, да якой прызывае цябе Бог, даючы ўсе неабходныя дары і магчымасці, каб ты рэалізаваў сябе. Па-іншаму можна яшчэ сказаць, што "твая справа" – менавіта тое, што ты робіш і ў чым другі чалавек цябе не заменіць.

У маім разуменні, калі выбіраеш прафесію, неабходна пытаць Бога, дзе Ён хоча бачыць цябе, на якім месцы. Калі Бог прызывае дзяўчыну ў нейкі манаскі ордэн, Ён таксама глядзіць на яе, ведае яе здольнасці і дае тое месца, на якім яна зможа рэалізаваць сябе. У Бога ж усё запланавана, можна сказаць, кавалкі мазаікі проста складваюцца. І дзяўчына, калі выбірае ордэн, глядзіць на свае здольнасці і ацэньвае, ці зможа рэалізаваць сябе ў дадзеным пакліканні.

Хаця, калі ідуць у манастыр, часцей за ўсё не задумваюцца ні аб прафесіі, ні аб тым, што рабіць, а проста хочуць служыць Богу і людзям. Ёсць таксама такое паняцце, як паслушэнства: што нам гавораць, тое мы і павінны рабіць. Не я выбіраю сабе працу альбо служэнне. Настаяцелі глядзяць на мяне, на мае здольнасці, а пасля гавораць, дзе магу рэалізаваць сябе, а дзе не. Варта таксама ведаць, што ў манастыры ніхто не будзе спецыяльна даваць цяжкія заданні. Настаяцелі заўсёды глядзяць на здольнасці чалавека і дазваляюць яму развівацца.

***– Як было асабіста ў Вас з пакліканнем і думкамі пра рэалізацыю сябе?***

– Калі я ішла ў манастыр, я абсалютна не думала ні пра працу, ні пра служэнне. Я хацела, каб маё жыццё належала Богу, хацела быць Яго рукамі. Для мяне гэта было вельмі важна. І тое, якое маё служэнне цяпер, абсалютна мной не было запланавана і з'яўляецца вынікам часу, праведзенага ў манастыры, пытанняў дазволу на шматлікія рэчы. Да вядзення блога, напрыклад, я прыйшла, калі прыехала ў Вільнюс. Тут усё закрылі на каранцін, таму ў вольны час у мяне з'явілася жаданне пісаць, і я бачыла, што атрымліваецца. Разумею, што гэта ад Бога.

Я лічу, спадзяюся і вельмі хачу, каб усё, што раблю на сённяшні дзень, любое служэнне: рэкалекцыі для дзяўчат, мой блог, праца ў школе, праводзенне катэхез – каб усё гэта было Яго жаданнем, Яго дзеяннем. Думаю, калі б я выконвала іншую працу, усё роўна была б шчаслівая, бо мэта майго жыцця – быць рукамі Бога. Шчаслівы чалавек будзе такім ва ўсім, кожная справа будзе выконвацца з радасцю.

***– Ці трэба заклікаць да стварэння месцаў працы для манахінь у розных структурах Касцёла?***

– Па-першае, сёстры ўжо прысутнічаюць у розных структурах Касцёла, па-за ордэнам, займаюць розныя пазіцыі. Па-другое, кожны чалавек мае нейкае сваё пакліканне, сваю нішу. Лічу, што трэба проста шукаць уласнае месца. Калі ў Божых планах ёсць, каб дадзеная манахіня была на нейкім месцы, кіраўніком нейкай структуры ў Касцёле, напрыклад, то думаю, што гэта рэалізуецца, ніхто пярэчыць не будзе. Я не бачыла, каб прадузята адносіліся да людзей, каб хтосьці казаў: "Ты сястра, ты не можаш". Думаю, кожны займае тое месца, на якое яго паклікаў Бог.

# ПАВОДЛЕ “ЗАКОНА” – ТЭРАРЫСТ. ПАВОДЛЕ ЗАПАВЕДЗЕЙ – СЛУГА БОЖЫ

**Кароста, туберкулёз, дыстрафія, пелагра – гэта толькі некаторыя з найбольш распаўсюджаных хвароб у савецкіх лагерах. У той жа час у пасмяротным акце пазначана “спыненне сардэчнай дзейнасці”. І мы можам толькі здагадвацца, ад чаго канкрэтна загінуў архімандрыт-мучанік Андрэй Цікота. Падобная ілжывасць уласціва камуністычнай сістэме, у адрозненне ад святара, які за вернасць Праўдзе атрымаў 25 гадоў катаргі.**

*Ангеліна Марцішэўская*



Да моманту прыняцця каталіцтва ўсходняга абраду, каб несці місію сярод грэка-католікаў у Маньчжурыі, айцец марыянін Андрэй Цікота служыў у шматлікіх мястэчках Беларусі: у Маладзечне, Будславе, Вілейцы, Мінску, Друі. Нарадзіўся святар таксама на нашых землях, таму яму было асабліва важна распаўсюджваць Божае слова на беларускай мове і клапаціцца пра ўсебаковае развіццё і добраўпарадкаванасць сваіх землякоў. Падчас яго служэння паўсталі пачатковыя школы і гімназіі, вучылішча кройкі і шыцця, тэатр, каса ўзаемадапамогі і г. д. За ахвярнасць і арганізатарскія здольнасці а. Цікоту высока цанілі вышэйшыя духоўныя ўлады Ватыкана. Ён двойчы абіраўся генералам ордэна айцоў марыянаў. Цягам амаль дзесяці гадоў кіраваў Усходняй місіяй у Маньчжурыі і Кітаі. Трэба адзначыць, што на сёння гэта адзін з нямногіх прыкладаў, калі святар-беларус займаў такія высокія пасады ў Каталіцкім Касцёле.

**У лютым мінула 70 гадоў з пакутніцкай смерці архімандрыта Андрэя Цікоты. У 2003 годзе быў распачаты працэс яго беатыфікацыі.**

Падчас місіі ў 1948 годзе архімандрыта Цікоту арыштавала кітайская камуністычная міліцыя і перадала савецкім органам бяспекі. Ведаючы вялікі духоўны аўтарытэт святара, савецкія ўлады прапанавалі яму пасаду першага ў Беларусі мітрапаліта незалежнай ад Ватыкана Царквы. Зразумела, узамен выканання ўсіх патрабаванняў Саветаў. Святар катэгарычна адмовіўся ад прапановы. За нежаданне супрацоўнічаць на яго пасыпаліся абвінавачванні: у арганізацыі тэрарыстычнай групоўкі, у антысавецкай агітацыі і шпіянажы на карысць Ватыкана і Японіі. Архімандрыт адбываў пакаранне ў розных лагерах прымусовай працы Іркуцкай вобласці. Між іншым, яму даводзілася будаваць чыгуначную магістраль, што было адным з самых бесчалавечных праектаў сталінізму. Капанне мёрзлай зямлі, калі тэмпература часам даходзіла да -50 градусаў, знясіліць кожнага. Аднак, не зважаючы на жудасныя ўмовы лагера, ён знаходзіў сілы і час, каб працягваць служэнне і духоўна падтрымліваць людзей побач. З перапіскі, якую вёў з сёстрамі эўхарысткамі з Друі (ён заснаваў там іх супольнасць), вядома, што святар прасіў манахінь, каб высылалі яму толькі белыя сухары з пшанічнай мукі і разынкі. З першых ён рабіў аплаткі, з другіх – віно. Іншымі словамі, архімандрыт Цікота цэлебраваў Імшы падчас катаргі.

Святар адбыў толькі 3 гады з прысуджанага яму тэрміну. На працягу ўсяго часу ў лагерах ён цяжка хварэў, і ўмовы ГУЛАГу скарацілі пакаранне. Апошнія месяцы жыцця ўскладніліся адкрытымі язвамі на плячах і нагах, аднак, паводле ўспамінаў іншых вязняў, медыцынскай дапамогі ён быў пазбаўлены. Гэта быў “бонус” для палітычных вязняў, да якіх належалі рэлігійныя дзеячы.

Пахаваны Слуга Божы на лагерных шпітальных могілках, у магіле, пазначанай звычайным калком. У Беларусі святара можна ўшанаваць на могілках у Жодзішках, яго малой радзіме, дзе ўсталяваны сімвалічны крыж.

**Архімандрыт Андрэй Цікота – прыклад нязломнасці веры і адданасці Богу. У сваім жыцці ён выдатна ўвасобіў універсальны, паўсюдны характар Каталіцкага Касцёла, дзе меў прыхільнасць як да лацінскага, так і да візантыйскага абрадаў. Служыў як беларусам, якім сам сябе лічыў, так і палякам, літоўцам, рускім, кітайцам. Менавіта яго вернасць Богу і жыццёвы выбар дазвалялі яму шмат у чым быць першым, весці за сабою людзей. Архімандрыт Цікота – выдатны прыклад чалавека, які ніколі не звяртаў увагі на абставіны, а шчыра і аддана працаваў для Бога і Беларусі, для беларускага адраджэння і сваёй Бацькаўшчыны.**

***Ігар Бараноўскі,** грэка-католік, выпускны рэдактар беларускай грэка-каталіцкай газеты “Царква”*

# ГНЕЗНА. УЗОР ГАТЫЧНАЙ АРХІТЭКТУРЫ НА НАШЫХ ЗЕМЛЯХ

*працяг са с. 1*

*Андрэй Вашкевіч*

Гэта найбольш стыльны, можна сказаць, узорны гатычны касцёл у нашай краіне. Аднак і ён, хоць здаецца цэльным у архітэктурным плане, будаваўся не адразу. Як лічаць даследчыкі, вежа была прыбудавана да фасада праз некалькі дзесяцігоддзяў пасля ўзвядзення касцёла. Калі сам ён гатычны, то ў вежы прасочваюцца ўплывы рэнесансу. Сцены храма збудаваны з вялікапамернай чырвонай цэглы ў тэхніцы гатычнага мура. Швы паміж цэгламі маюць шырыню 2-3 см з характэрнай расшыўкай. Пачаткова касцёл быў цалкам пакрыты чарапіцай.

Традыцыйна лічыцца, што першы драўляны касцёл у Гнезне пабудавалі ў 1524 годзе ўладальнікі двара Гнезнае – Шэметавічы (або Шэметы). У сярэдзіне XVI стагоддзя маёнтак ад Шэметаў перайшоў у рукі аднаго з найбольш уплывовых магнатаў Вялікага княства Літоўскага Геранімa Хадкевіча. Той неадночы мяняў свае веравызнанне: спачатку быў праваслаўным, пасля прыняў каталіцтва, а потым, у 1555 годзе, перайшоў у папулярны ў тыя часы на нашых землях кальвінізм. Тут пачынаецца цікавая і забытая старонка гісторыі касцёла ў Гнезне.



*Знешні выгляд парафіяльнага касцёла*

Справа ў тым, што святыню амаль дакладна пабудавалі ўжо ў часы Хадкевічаў, на той момант кальвіністаў. Таксама вядома, што яна існавала ў 1588 годзе і была тады кальвінскім зборам. Таму магчыма, што касцёл з самага пачатку быў збудаваны як кальвінскі збор, якіх на той час у ваколіцах Ваўкавыска было яшчэ некалькі. Аднак гэтая версія патрабуе далейшых дакументальных пошукаў, бо ўжо нават у сярэдзіне XVII стагоддзя пачатковую гісторыю святыні дакладана высветліць было вельмі складана. У 1643 годзе адбыўся судовы працэс, у якім воўпенскі каталіцкі пробашч патрабаваў вярнуць касцёл католікам. Былі нават апытаны сялянестаражылы з навакольных вёсак, якія мелі 90-100 гадоў, і яны пацвердзілі, што некалі ў Гнезне насамрэч быў касцёл. У выніку святыню перадалі католікам, тым больш, што кальвінізм у той час ужо выразна хіліўся да заняпаду. Апекавалася святыняй сям’я Кярдзееў. Гаспадары двара спачатку канфліктавалі з пробашчам, аднак потым грунтоўна ўзяліся за яго падтрымку і нават былі пахаваны ў касцёльным склепе. З 1700 года Гнезнам валодалі Ромеры, якія там не жылі і здавалі маёнтак у арэнду. Найдаўжэй арандатарам Гнезна быў Ян Тапянскі, стражнік жмудскі, які пражыў там усё жыццё і нават быў пахаваны на касцёльных могілках. Ён быў калятарам (апекуном) касцёла і дзякуючы яму храм быў грунтоўна адрэстаўраваны.

Наступныя стагоддзі прыйшлі для святыні ў перыядах часовага заняпаду і пастаянных рамонтаў. Напрыклад, у 1820 годзе ў касцёле нават не было аргана, яго замяняў механічны музычны куфэрак, які на той момант таксама не працаваў. У 1839 годзе адбылася вялікая трагедыя – касцёльны служка забыў распаленыя вуголлі каля алтара, той загарэўся і падпаліў святыню. Касцёл аднавілі ў 1840-ых гадах, але вежу панізілі з 31-го да 20-ці метраў. Мы, на вялікі жаль, не ведаем, як выглядаў касцёл да 1839 года, паколькі першы яго малюнак быў зроблены мастаком Напалеонам Ордам толькі ў 1870-ых гадах.

У часы Сусветных войнаў касцёл не пацярпеў. Найбольшая пагроза навісла над ім у 1946 годзе, калі падчас летняй спякоты згарэла амаль палова вёскі. Парафіяне насілі ваду і палівалі ёй сцены касцёла, каб на яго не перакінуўся агонь. У 1989 годзе, пасля некалькіх дзесяцігоддзяў заняпаду, касцёл у Гнезне быў вернуты католікам і дагэтуль упрыгожвае ваўкавыскую зямлю.

# ГРАХІ, ЯКІЯ НАКЛІКАЮЦЬ БОЖУЮ ПОМСТУ

*працяг з папярэдняга нумара*

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

Сённяшні свет, адкідаючы веру ў Божае Аб'яўленне, нібы нанова хоча адкрыць, што добра, а што дрэнна. Але мы не можам прыдумваць свае правілы веры. Сучасны чалавек павінен прыстасавацца да Божага слова, бо інакш ён загіне.

Другі грэх, называны ў Біблії "грахом, які наклікае Божую помсту", – грэх жыхароў Садома і Гаморы, а менавіта сексуальныя адхіленні (гомасексуалізм, лесбіянства, педафілія, заафілія і да т. п.). Адхіленне як пошук "дзікага" задавальнення спалучаецца з жорсткасцю, адсутнасцю гасціннасці і ўсялякай спагады. Пра гэта сведчаць біблейскія апавяданні аб паводзінах жыхароў Садома, а пазней і жыхароў Гівы. Першая падзея адбылася ў часы Абрагама (каля 2000 г. да н. э.), другая – у часы Суддзяў (1200–1050 гг. да н. э.). Гэтыя падзеі былі следствам пагружэння ў грахі нячыстасці. Ачышчэнне грамадства ад гэтага зла было звязана з вялікімі пакутамі.

### САДОМСКІ ГРЭХ

Бог сказаў Абрагаму праз анёла: "Узмоцніўся крык супраць Садома і Гаморы, і грахі іхнія сталі вельмі цяжкімі. Сыду і пагляджу, ці сапраўды чыняць згодна з нараканнем, якое даходзіць да Мяне, ці не; Я даведаюся". Бог нібы заклікае ў сведкі усё неба і зямлю, што Яго ўмяшанне неабходна.

Лот прыняў анёлаў у свой дом. Садомцы, мужчыны з усіх канцоў горада, акружылі дом, паклікалі Лота і сказалі яму: "Дзе людзі, якія прыйшлі да цябе нанач? Выведзі іх да нас; мы спазнаем іх". На просьбу Лота паважаць гасцей яны адрэагавалі агрэсіўна: "Адыдзі! [...] Цяпер мы горш учынім з табою, чым з імі". Аслепленыя анёламі, яны адышлі, але не навярнуліся. Анёлы прыспешвалі Лота, кажучы: "Устань, вазьмі жонку тваю і дзвюх дачок тваіх, якія ў цябе, каб не загінуў ты за беззаконні горада. І калі ён марудзіў, мужы тыя з міласэрнасці Божай над ім узялі за руку яго і жонку, і дзвюх дачок яго, і павялі яго, і вывелі за горад". Тады спаслаў Пан на Садом і Гамору дождж з серы і агонь. І так знішчыў гэтыя гарады і ўсю ваколіцу разам з усімі жыхарамі гарадоў (чыт. Быц 18–19).

### ВЫЧВАРЭНЦЫ Ў ПАКАЛЕННІ ВЕНІЯМІНА

Не менш рэзкая гісторыя апісана ў Кнізе Суддзяў. Пэўны левіт вяртаўся з жонкай дадому. Ён спыніўся ў горадзе Гіва, непадалёк будучага Іерусаліма, каб пераначаваць там. У горадзе жылі патомкі Веніяміна. Падарожныя спыніліся ў доме гасціннага чалавека, і потым разгарнулася трагедыя.

Вычварэнцы таго горада акружылі дом і, пастукаўшы ў дзверы, сказалі гаспадару: "Выведзі чалавека, які ўвайшоў у дом твой, мы спазнаем яго". Гаспадар, выйшаўшы да іх, сказаў: "Не, браты мае, я вас прашу, не рабіце гэтага зла, [...] не чыніце гэтага вар'яцтва". Нарэшце вычварэнцы пагадзіліся, што ахвярай іх згвалтавання стане жонка левіта. Гвалцілі яе ўсю ноч да світання. Жанчына памерла каля дзвярэй дома.

Вярнуўшыся дадому, левіт паслаў сваіх паслоў да ўсіх плямён Ізраілевых, кажучы: "Ці бачылі калінебудзь падобнае з таго дня, як ізраільцяне выйшлі з Егіпта, да сённяшняга дня? Падумайце, парайцеся і скажыце!". Гэты факт выклікаў вялікае абурэнне ва ўсім Ізраілі. Плямёны Ізраілевы паслалі паслоў да ўсіх патомкаў Веніяміна, каб данесці да іх: "Якое гэта злачынства ўчынена сярод вас? Цяпер выдайце гэтых распусных людзей з Гівы, каб мы знішчылі іх і такім чынам выкарчавалі зло з Ізраіля". Але веніямінцы не паслухаліся голасу братоў сваіх.

Больш таго, яны пакінулі свае паселішчы і сабраліся ў Гіве, каб напасці на ізраільцян. Дайшло да грамадзянскай вайны. У першай бітве веніямінцы забілі 22 тысячы ізраільцян. Тады сыны Ізраілевы, плачучы перад Госпадам да вечара, пыталіся, кажучы: "Ці нам працягваць ваяваць з сынамі Веніямінавымі, братамі нашымі?". Бог адказаў ім: "Ідзіце супраць іх". На другі дзень веніямінцы пабілі 18 тысяч ізраільцян. Тады ізраільцяне і ўвесь народ плакалі перад Госпадам і пасцілі ў той дзень да вечара, складаючы ахвяры перад абліччам Бога. І пыталі Яго: "Ці нам яшчэ выйсці на бітву з патомкамі Веніяміна, нашымі братамі, ці павінны пакінуць гэта?". Гасподзь адказаў ім: "Ідзіце, бо заўтра Я аддам іх у вашыя рукі".

Толькі трэці бой скончыўся разгромам вінаватых. Ізраільцяне забілі 25 тысяч веніямінцаў. Толькі 600 чалавек змаглі схавацца ў пустыні на скале Рымон. Тады сыны Ізраілевы забілі ўсіх у горадзе – людзей і быдла, а горад спалілі. Яны таксама спалілі ўсе іншыя гарады веніямінцаў, якія сустрэлі. Такім чынам, загінулі не толькі вычварэнцы, але і ўсе, хто іх абараняў (чыт. Суд 19–20).

### ПРЫНЯЦЦЕ ЯК САЛІДАРНАСЦЬ

Гэтыя балючыя біблейскія гісторыі сведчаць, наколькі вялікую пагрозу для чалавецтва ўяўляе распуста, пікам якой з'яўляюцца сексуальныя адхіленні, і колькі пакут звязана з ачышчэннем грамадства ад гэтага граху. Як у першым выпадку, так і ў другім вычварэнцы сталі прычынай гібелі людзей, якія іх акружалі. Іх прыняцце стала салідарнасцю з вычварэнцамі, якія наклікалі знішчэнне.

Садомскі грэх, пра які распавядае Біблія, быў абмежаваны канкрэтным месцам. Аднак сёння мы бачым, што садаміты адкрыта выступаюць па ўсім свеце і называюць свой грэх, які наклікае Божую помсту, "радасцю".

Св. Бернадэта, якой у Лурдзе аб'яўлялася Маці Божая, казала, што Марыя прасіла маліцца за грэшнікаў. Калі дзяўчына распавядала пра свае бачанні камісіі, што даследавала праўдзівасць аб'яўленняў, яе спыталі: "Хто такі грэшнік?". Яна адказала: "Гэта чалавек, які любіць зло". Грэх, што наклікае Божую помсту, – гэта той самы грэх, які чалавек здзяйсняе, знаходзячы асалоду ў перадачы свайго сэрца злу, таму ён страшна небяспечны і згубны для самога грэшніка і для тых, хто яго акружае.

### НЯМЫ ГРЭХ

Садомскі грэх быў названы "нямым грахом", таму што большасці людзей было агідна гаварыць або чуць пра яго. Нам цяжка ўявіць, што, напрыклад, св. Тэрэза ад Дзіцятка Езус абмяркоўвала б гэтую тэму. Магчыма, Пан Езус нават не згадваў пра садомскі грэх з агіды. Гэты грэх быў названы "нямым" яшчэ таму, што ён закрывае вусны людзям падчас споведзі: яны не згадваюць пра яго і часта гадамі трываюць у святатацтве.

*Працяг у наступным нумары.*

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

*Кс. Юрый Марціновіч*

***6 сакавіка – I Нядзеля Вялікага посту***
***Лк 4, 1–13***

Езус, напоўнены Духам Святым, вярнуўся з-над Іардана, і Дух вывеў Яго ў пустыню, дзе на працягу сарака дзён д'ябал выпрабоўваў Яго. І нічога не еў у тыя дні, а калі яны скончыліся, зграладаўся. І сказаў Яму д'ябал: "Калі Ты Сын Божы, скажы гэтаму каменю, каб ён стаў хлебам". І адказаў яму Езус: "Напісана: «Не хлебам адным будзе жыць чалавек»". Тады д'ябал павёў Яго і паказаў у імгненне ўсе валадарствы свету. І сказаў Яму: "Я дам Табе ўсю гэтую ўладу і славу іх, бо яна мне перададзена, і каму хачу, даю яе. Калі Ты паклонішся мне, усё будзе Тваё". У адказ Езус сказаў яму: "Напісана: «Пану Богу твайму будзеш пакланяцца і Яму аднаму будзеш служыць»". Тады завёў Яго ў Іерусалім і паставіў на версе святыні, і сказаў Яму: "Калі Ты Сын Божы, кінься адгэтуль уніз. Бо напісана: «Анёлам сваім загадае наконт Цябе, каб ахоўвалі Цябе, і яны на руках панясуць Цябе, каб Ты часам не спатыкнуўся на камень сваёй нагою»". Езус сказаў яму ў адказ: "Сказана: «Не будзеш выпрабоўваць Пана Бога твайго»". І скончыўшы ўсе выпрабаванні, д'ябал адступіў ад Яго да пары.

### Езус – Абаронца ў барацьбе са злом

*У Евангеллі пра спакусу Хрыста ў пустыні мы можам убачыць у Езусе чалавека, які падвяргаецца спакусам, як і мы. Безумоўна, Ён ніколі не ўчыніў ніякага граху. Будучы Богам, Ён быў дасканала святым па сваёй прыродзе, але як сапраўдны чалавек падвяргаўся спакусам, а нават, без сумненняў, д'ябал атакаваў Яго больш, чым звычайнага чалавека.*

*Пастава Езуса з'яўляецца ўзорам дасканалага супрацьстаяння гэтым спакусам. Ён не вядзе перамовы са злом. Не разбірае д'ябальскія прапановы на галоўныя матывы, не шукае ў іх бясшкодныя і карысныя для сябе элементы. Ён іх аднaзначна адхіляе.*

*Любая форма супрацоўніцтва са злым духам з'яўляецца злом, і яго прапановы ніколі не служаць дабру чалавека. Таму мы таксама павінны звярнуць увагу на тое, адкуль бярэцца натхненне для нашых дзеянняў. Не ўсё, што прыносіць нам карысць, добра для нас.*

*На прапановы д'ябла Езус адказвае ўрыўкамі са Святога Пісання. Такім чынам, Божае слова з'яўляецца абаронай, якую мы таксама можам выкарыстоўваць супраць спакус, што трапляюць на нас. І калі мы хістаемся пад іх ціскам, памятайма, што ў Езусе маем Абаронцу, які перамог д'ябла раз і назаўсёды.*

*Пане Езу Хрысце, няхай Тваё Слова дапамагае мне ў барацьбе са злом!*

***13 сакавіка – II Нядзеля Вялікага посту***
***Лк 9, 28b–36***

Езус узяў з сабою Пятра, Яна і Якуба і ўзышоў на гару памаліцца. І калі Ён маліўся, выгляд твару Ягонага перамяніўся, і вопратка Ягоная стала бліскуча-белай. І вось два мужы размаўлялі з Ім, а былі гэта Майсей і Ілля. Яны з'явіліся ў славе і казалі пра Ягоны адыход, які Ён павінен здзейсніць у Іерусаліме. Пётр і тыя, хто быў разам з ім, былі змораныя сном. Калі ж абудзіліся, убачылі славу Яго і двух мужоў, якія стаялі разам з Ім. А калі яны адыходзілі адтуль, Пётр сказаў Езусу: "Настаўнік, добра нам тут быць. Паставім тры шатры: адзін для Цябе, адзін для Майсея і адзін для Іллі". Не ведаў ён, што казаў. Калі гаварыў гэта, з'явілася воблака і агарнула іх. І спалохаліся яны, калі ўвайшлі ў воблака. А з воблака пачуўся голас, які казаў: "Гэта Сын Мой выбраны, Яго слухайце". І калі гучаў гэты голас, Езус апынуўся адзін. І маўчалі яны, і ў тыя дні нікому нічога не казалі пра тое, што бачылі.

### Езус – прыклад перамены

*Перамененны Езус хацеў паказаць, што ён Бог. Таму ў Евангеллі фігуруюць і Майсей, і Ілля. Майсей – гэта спасылка на закон, які Бог даў ізраільцянам. Ілля, у сваю чаргу, з'яўляецца спасылкай на прарокаў, якіх, згодна з Божым наказам, павінен быў слухаць абраны народ. А ў сцэне перамянення Езус знаходзіцца па-над гэтым. Па-над Майсеем і Іллёй. Гэта азначае, што Ён Бог, таму што і закон, і прарокі падпарадкаваны Яму.*

*Але гэтае перамяненне Езуса таксама заахвочвае нас жадаць перамяніцца. Бог перамяніў нас у момант хросту. Мы сталі Божымі дзецьмі. І гэты хрост абавязвае нас. Так, напрыклад, заручальны пярсцёнак абавязвае нарачоную: яна не можа шукаць іншых хлопцаў. Калі нехта наклеіць сабе на машыну рыбку – сімвал хрысціян, – гэта абавязвае яго ездзіць правільна, таму што кожны бачыць, што едзе хрысціянін, які не можа парушаць закон. Шлюбныя абяцанні абавязваюць мужа і жонку быць вернымі. Так і хрост абавязвае нас. Каб мы былі святымі, бо Бог наш святы (параўн. Лев 19, 1).*

*Пры хрышчэнні мы атрымалі белую вопратку. Гэта яна абавязвае нас быць святымі. Каб мы перамяніліся ў адпаведнасці са словамі Евангелля Хрыста. Імкнучыся змяніць сваё жыццё ў гэты Вялікі пост, выйдзем са сваёй недасканаласці і пойдзем да дасканалага жыцця.*

*Пане Езу Хрысце, дапамажы мне станавіцца ўсё больш дасканалым!*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ ВАЛЕРЫЮ ШЭЙГЕРЭВІЧУ**
*з нагоды дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця і Божага благаслаўлення на святарскім шляху.*
*Былыя парафіяне*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЯКСАНДРУ ШЭМЕТУ**
*з нагоды імянін жадаем добрага здароўя, шчасця і радасці. Няхай найвышэйшы Бог адорыць Вас сваімі ласкамі, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы і дапамагае заўсёды і ўсюды, святы заступнік спадарожнічае на шляху да святасці, а кожны дзень паслугі Богу і людзям прыносіць радасць і задавальненне.*
*Вернікі парафіі Гродна-Аўгустовак*

**ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ КАЗІМІР МУРАВА!**
*З нагоды Вашых імянін мы ў сваіх малітвах просім Бога, каб бласлявіў Вас на доўгую службу на Яго ніве, а таксама аб апецы Маці Божай ва ўсіх справах і шчодрых дарах Святога Духа. Моцнага здароўя і сіл, каб Вы надалей маглі працаваць на карысць дабра.*
*З павагай парафіяне касцёла свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Жупранах*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**
*з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень душпастырскай паслугі, добрага здароўя, нязгаснага запалу, моцнай веры і непахіснай надзеі. Няхай Ваша сэрца перапаўняе радасць, побач заўсёды будуць зычлівыя людзі, а святарскі шлях будзе асвечаны Святым Духам.*
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Селіванаўцаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАЗІМІРУ МУРАВУ**
*з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, сіл, радасці, добразычлівых людзей побач і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая няспынна Вамі апекуецца і ахоўвае ў розных жыццёвых сітуацыях, а святы заступнік чувае кожны дзень.*
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Жупранаў*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**
*з нагоды імянін жадаем усіх Божых ласкаў і толькі радасных хвілін. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Найсвяцейшая Панна Марыя прытуляе да свайго сэрца.*
*Валерый, Вераніка і Яна*

**ПАВАЖАНАМУ АЙЦУ КАЗІМІРУ ЕНДЖЭЙЧАКУ**
*з нагоды імянін жадаем, каб усемагутны Бог і Найсвяцейшая Панна Марыя заўсёды трымалі Вас у сваёй апецы, Святы Дух натхняў на добрыя і годныя справы, а Анёл-ахоўнік верна Вам служыў. Жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, людской добразычлівасці, а таксама Божага благаслаўлення ў кожную хвіліну жыцця.*
*Парафіяне з в. Нямнова*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ БРАЗІНСКАМУ**
*з нагоды 30-годдзя жадаем поспехаў і здзяйснення мар, нястомнага запалу ў святарскай паслузе, зычлівых і ахвярных людзей навокал. Няхай Найсвяцейшая Маці атуляе Вас любоўю ды апекай і выпрошвае ў Сына неабходныя ласкі для Вас.*
*Легіён Марыі і апостальства "Маргарытка" парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗЯНІСУ БРАЗІНСКАМУ**
*з нагоды дня нараджэння жадаем моцы і настойлівасці ў абвяшчэнні Добрай Навіны, непахіснага даверу да Божай міласэрнасці, Яго благаслаўлення і Святла Святога Духа. Няхай Езус Хрыстус заўсёды дапамагае Вам у жыцці і будзе крыніцай радасці, а Найсвяцейшая Маці акружае мацярынскай любоўю.*
*Літургічная служба алтара парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЗДЗІСЛАВУ ВЭДЭРУ**
ў сувязі са смерцю брата Генрыха перасылаю словы шчырага жалю і спачування. Няхай міласэрны Бог прыме душу памерлага ў сваё Валадарства, а Вам дадасць моцы і надзеі.
*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

## АНОНСЫ

# Адарацыя ў інтэнцыі міру праходзіць у гродзенскай катэдры

По панядзелках, серадах і суботах на працягу Вялікага посту ў гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя адбываецца адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту ў інтэнцыі міру ў свеце, а таксама аб патрэбных ласках для народаў Украіны, Беларусі і Расіі.

***Пачатак адарацыі ў 18.00.***

*Арганізатары заклікаюць далучацца да супольнай малітвы, бо адказнасць за мірную будучыню ляжыць на кожным з нас.*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Біскуп Алег Буткевіч узначаліў у Росіцы ўрачыстасць у гонар мучанікаў ІІ Сусветнай вайны. Росіца – асаблівае места, дзе амаль 80 гадоў таму падчас нялюдскай карнай аперацыі ад рук нацыстаў загінула шмат бязвінных людзей. Нашы суайчыннікі згарэлі жыўцом, прыняўшы пакутніцкую смерць.

Сярод іх былі і два святары – марыяне Юрый Кашыра і Антоні Ляшчэвіч. Яны мелі магчымасць пазбегнуць страшнай смерці, зберагчы сваё жыццё, але ў хвіліну выпрабавання не пакінулі вернікаў.

"Людзі нашай зямлі, праяўляючы духоўны гераізм, ратавалі чалавека. І гаворка ідзе не толькі пра жыццё тут, на зямлі. Святары ратавалі людскія душы, каб, стаўшы перад Панам, яны маглі атрымаць жыццё вечнае", – адзначыў іерарх.




**грэка-каталіцкая газета**

Мы чакаем узнагароды за выкананне запаведзей, аднак самі запаведзі ёсць узнагарода, і яны не столькі пра прышласць, колькі пра цяперашнасць. Запаведзі ўжо самі па сабе бясцэнны скарб, ад якога нам робіцца добра ўжо зараз.

Занадта часта думаючы пра будучае, канцэнтруючы на ім сваю ўвагу і мэту, мы не цэнім "сёння", у якім здзяйсняецца наша хада і ў якім мы маем шчасце бачыць плечы Госпада. Сённяшняе падобна да здароўя: яго не заўважаюць і не цэняць, пакуль не страцяць.

Нясьледаванне за Езусам, жыццё не паводле запаведзяў, ізноў жа, не столькі пра будучую кару, колькі пра нямірнае, неспакойнае, нешчаслівае цяперашняе, у якім чалавек "сам у сабе атрымлівае належную адплату".




**беларуская рэдакцыя**

Канадскі кардынал і прэфект Кангрэгацыі па справах біскупаў Марк Уэле тлумачыць, што сапраўдней прычынай сексуальных злоўжыванняў з'яўляецца не цэлібат, а адсутнасць самакантролю і эмацыянальнай раўнавагі некаторых прадстаўнікоў духавенства. Таму трэба ўдасканальваць распазнаванне пакліканняў да святарства і сачыць за псіха-афектыўным і маральным балансам кандыдатаў.

"Святарскі цэлібат можна зразумець толькі з пункту гледжання веры. Езус Хрыстус заклікаў сваіх вучняў пакінуць усё, каб ісці за Ім", – адзначыў прэфект Кангрэгацыі па справах біскупаў.

Іерарх нагадаў, што святар сакраментальна прадстаўляе Хрыста на зямлі як адзінага пасрэдніка ў адносінах чалавека з Госпадам.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

У кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта ў Навагрудку адбыліся рэкалекцыі для дзяўчат на тэму "Сара – як навучыцца быць прынцэсай Бога". На прыкладзе Сары, яе выпрабаванняў, веры і даверу Пану ўдзельніцы прыглядаліся да свайго жыцця, разважаючы над тым, што можна зрабіць, каб яшчэ больш падабацца Богу.

У праграме было разважанне над Божым словам і адарацыя. Дні сустрэчы праходзілі ў асноўным у маўчанні і паглыбленай малітве, што, безумоўна, дапамагала ўсталяванню дыялогу з Богам, які звяртаецца да чалавека ў цішыні.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Дазведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч**;
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**.
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4**; тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.
Друк: **ААТ "Брэсцкая друкарня"**, 224013 Брэст, прасп. Машэрава, 75; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.